Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№21 студзень 2013

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## Пішыце лісты палітвязням



## Алесь Бяляцкі: “Я вельмі ўдзячны ўсім людзям, якія мне пішуць!”

*У сваіх допісах калядна-навагодніх і пасьлясьвяточных дзён Алесь Бяляцкі распавядае, што яго “канчаткова завалiла лавiна лiстоў i паштовак, калi да акцыi падтрымкi далучылiся вiншаваньнi”. Часам за дзень палiтвязень атрымлiваў блiзу паўтысячы пасланьняў - з Беларусi i з усяго сьвету.*

*“Я вельмi ўдзячны ўсiм людзям, якiя мне пiшуць!” – звяртаецца Алесь да адрасантаў тых пасланьняў, чые словы сагравалi яго гэтымi зiмовымi днямi ў зусiм несьвяточных умовах.*

*“Працуем мы, рвем вацiн i набiваем наматрацнiкi i насыпкi – заказ для жаўнераў. Пасля такой працы дробным пылам забiты нос i дыхаеш ротам...” – напiсаў Алесь у адну з апошнiх сьнежаньскiх суботаў, якая была працоўным днём, i дадаў, што парадаваў гэты дзень тым, што працавала i пошта.*

*“У навагоднiя сьвяты мелi мы два днi адпачынку. I гэтыя днi i яшчэ паўдня 2-га студзеня па-цiху, па-троху чытаў я тыя сотнi лiстоў i паштовак... Магу шчыра сказаць, я не прапусьцiў нiводзiн зь iх. На ўзроўнi ўсiх сваiх пачуцьцяў я адчуваў тыя хвалi падтрымкi i спагады, тыя флюiды душэўнай энэргii, якiя сыходзiлi зь iх. Гэта быў неперадавальны новы год...*

*Я пачынаю сур’ёзна задумвацца: а чым я змагу аддзячыць людзям, якiя вось так шчыра i цёпла падтрымлiваюць мяне...”*

*Нагадаем, што ўжо другiя запар калядныя i навагоднiя днi кiраўнiк Праваабарончага цэнтру “Вясна” i вiцэ-прэзiдэнт Мiжнароднай федэрацыi за правы чалавека (FIDH) правеў за кратамi. Пазбаўлены волi за сваю праваабарончую дзейнасьць, у 2011 годзе ў гэты час Алесь Бяляцкi знаходзiўся ў Жодзiнскай турме, дзе яго напаткала асабiстае гора – 24 сьнежня ня стала ягонага бацькi, развiтальную сустрэчу з iм, цяжка хворым, Алесю не дазволiлi.*

# Анастасія Лойка: На кожнага палітвязня ціснуць па-свойму

Улады шукаюць слабое месца ў кожнага палітычнага вязня і ўздзейнічаюць на яго, лічыць праваабаронца.

Нагадаем, у канцы года пагоршылася становішча шматлікіх палітвязняў. Так, Аляксандр Францкевіч правёў перад святам 10 сутак у карцэры, Васілю Парфянкову не далі патэлефанаваць дадому, а Мікалай Аўтуховіч даслаў ліст, у якім паведаміў, што не разлічвае на ўмоўнадатэрміновае вызваленне.

«Сітуацыя з перыядычным ціскам на палітвязняў назіраецца апошнія паўгода, няма ніякіх прынцыповых зменаў. Перыядычна камусьці не даюць патэлефанаваць дадому, змяшчаюць у СІЗА, пазбаўляюць перадач. Гэта млявапраяўны працэс, я б не сказала, што гэта абвастрэнне», - заявіла ў інтэрв'ю сайту charter97.org праваабаронца Анастасія Лойка.

Па словах эксперта, такое стаўленне да палітычных вязнеў назіраецца ўжо даўно:

«Відавочна, што абраная тактыка, што трэба ўтрымліваць палітвязняў пад асаблівым кантролем, не даваць ім таго, што даруецца іншым і па магчымасці караць іх за дробныя парушэнні. Гэта працягвалася ў канцы года, перад святамі і відаць, што ўлада пакуль не збіраецца змяняць гэтыя тэндэнцыі. Я б не сказала, што гэта выключныя меры. На жаль, гэта назіраецца ўжо даўно».



Палітвязні для ўладаў - прадмет гандлю, адзначыла праваабаронца:

«Мы патрабуем вызвалення ўсіх палітычных зняволеных. Адміністрацыі турмаў абыходзяцца з імі вельмі дрэнна. Яны правакуюць палітвязняў і нацкоўваюць на іх іншых зняволеных. Улады проста ўтрымліваюць палітычных вязняў як прадмет гандлю і не хвалююцца пра тое, каб у іх былі камфортныя ўмовы. Людзей караюць за іх палітычныя погляды, за іх грамадзянскую дзейнасць».

Адзін з метадаў ціску, які выкарыстоўваецца ў дачыненні да палітвязняў - іх поўная ізаляцыя, кажа Анастасія Лойка:

«Самае страшнае ў гэтай сітуацыі, што многіх палітвязняў абмяжоўваюць у кантактах з іншымі людзьмі. Алесь Бяляцкі знаходзіцца амаль у поўнай камунікабельнай ізаляцыі. Да кожнага палітвязня ў адміністрацыі свой падыход, у кожнага ёсць нейкае слабое месца і на яго і спрабуюць націснуць».

Вызваленне палітвязняў без рэабілітацыі не гарантуе ім знаходжання на волі, упэўненая праваабаронца:

«¨сць надзея, што гэтая «зіма» ў дачыненні да палітвязняў рана ці позна скончыцца, і мы спадзяемся, што ў бліжэйшы час людзі ўсё-ткі будуць вызваленыя і стаўленне да іх будзе паляпшацца хоць бы мінімальна. Мы хочам, каб іх вызвалілі і рэабілітавалі. Памілаванне само па сабе прадугледжвае магчымасць не проста вызваліць чалавека, але і адразу зняць з яго судзімасць. У адваротным выпадку мы бачым, як Васіль Парфянкоў адбывае пакаранне за парушэнне прэвентыўнага нагляду. Таму няма гарантый, што людзі пасля вызвалення змогуць жыць спакойна, што ў дачыненні да іх не будзе правакацый, і яны не будуць вымушаныя эміграваць».

# Гарадзенскі рэкорд – за фотаздымак у інтэрнэце – штраф 4,5 мільёнаў рублёў

У Гародні 5 студзеня ў судзе Ленінскага раёну прайшоў разгляд адміністрацыйных спраў, пачатых супраць гарадзенскіх грамадскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава, Рамана Юргеля і Уладзіміра Хільмановіча. У дзень сусветнай дэкларацыі правоў чалавека 10 снежня гарадзенскія праваабаронцы сфатаграфаваліся з партрэтамі зняволенага Алеся Бяляцкага і кніжачкамі з тэкстам дэкларацыі. Пазней гарадзенскай міліцыяй гэты медыйны факт быў кваліфікаваны як “несанкцыянаваны пікет” – 18 снежня былі складзены пратаколы апытання, а 19 снежня актывісты былі азнаёмлены з пратаколамі пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне. Усе тры справы былі аб’яднаныя ў адзін адміністрацыйны працэс, які вёў суддзя Віталь Ляцко. Разгляд доўжыўся каля двух з паловай гадзін.



У судзе не было прадстаўлена аніякіх доказаў віны праваабаронцаў, не знойдзена ніякіх сведак, усё абвінавачанне грунтавалася выключна на рапартах і домыслах прадстаўнікоў.

У выніку суддзя Віталь Ляцко, не робячы перапынку ў паседжанні, абвесціў сваё пастанову – па 15 базавых велічыняў штрафу кожнаму. У суме гэта складае 4,5 мільёнаў рублёў. Грамадскія праваабаронцы перакананыя, што працэс меў выключна заказны палітычны характар і лічаць такі прысуд абсалютна неадэкватным юрыдычным рэаліям абсурднай адміністрацыйнай справы.

# Кансервы без тамату

***Мінулі навагоднія святы і беларуская палітычная апазіцыя ажывілася. Ледзь не кожны дзень чуваць новыя ініцыятывы і прапановы. Але не пакідае ўражанне, што заявы гэтыя робяцца толькі з аднае прычыны – маўляў, нельга сядзець, трэба нешта абавязкова рабіць, трэба дзеіць. З іншага боку, ёсць і адваротная пазіцыя – “ні міру ні вайны, а армію распусціць”, ці іншымі словамі як у народнай прымаўцы – сядзі ў будзе і чакай, што будзе. Адны з году ў год заклікаюць – ісці ў масы, даводзіць народу праўду і шырыць ужо досыць хісткія шэрагі партыйных і грамадскіх структураў. Іншыя прапаноўваюць кшталтаваць эліты і чакаць ні то сацыяльных зрухаў, ні то “самавыспявання” таго ж народу. Па гэтай прыкмеце афарміліся лагеры “удзельнікаў” і “байкотчыкаў”.***

Для ўсіх, хто хоць раз сур’ёзна браўся аналізаваць сітуацыю, відавочна, што кожнага, хто на тым ці іншым этапе выяўляе сябе як сапраўды ўплывовы ці досыць радыкальны лідар, улада, якая мае процьму рэпрэсіўных механізмаў, нейтралізуе. Зянон Пазьняк у сярэдзіне дзевяностых гадоў, Аляксандар Казулін у 2006-ым, Андрэй Саннікаў у 2010-ым – абараніць іх і захаваць як адзінага лідара апазіцыі не было ніякіх шанцаў. Ці ў змозе зараз хто-небудзь з іх прэтэндаваць на статус адзінага – адказ ляжыць на паверхні – канешне не. Яшчэ шэраг грамадска-палітычных аўтарытэтных лідараў – Мікола Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Павал Севярынец, Зміцер Дашкевіч – дагэтуль у зняволенні і могуць уздымаць агульную сітуацыю толькі сваім нязломным духам, але ніяк ня могуць уплываць на фармаванне адзінай апазіцыйнай стратэгіі. Што застаецца – выбіраць з замшэлай абоймы яшчэ дзесятка асобаў, якія ўжо неаднаразова мелі шанцы выявіць сябе і альбо не выявілі належна, альбо ўвогуле паказалі сябе адмоўна?! Таму ідэя “праймерыз” – папярэдніх выбараў “адзінага”, немажлівая для рэалізацыі ў прынцыпе. Ніхто ўсё роўна ня здолее выпрацаваць ні алгарытму, ні механізма яго выяўлення. Варта тут успомніць і якім пшыкам скончылася ідэя альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў у 1996-ым.



Яшчэ адна аналагічная ідэя – зладзіць папярэдняе галасаванне праз інтэрнэт увогуле не падлягае сур’ёзнаму разгляду.

Апошнім часам набрала сілу тэндэнцыя катэгарычна ацэньваць існую апазіцыю. Па рознаму захоўваюцца і тыя апазіцыянеры, якія апынуліся за мяжой, ратуючыся ад праследу. Адны палітэмігранты выказваюць свае меркаванні і робяць тое, што могуць. Іншыя ж, катэгарычныя ў сваіх ацэнках настолькі, што адмаўляюць увогуле “сістэмнай апазіцыі” у праве на дзейнасць, абвяшчаючы яе банкрутам, пры тым часта прыпісваюць сабе заслугі, якія здабываліся агульнымі сіламі. Усё гэта выглядае ня вельмі прыстойна.

Апазіцыя, якая зараз у самой Беларусі, нагадвае шпроты, якія змешчаны ў кансервавую бляшанку. Адкрыць гэтую бляшанку ўлада можа дазволіць, але рыбкі ўжо не паплывуць. Для насельніцтва ж гэтыя бляшанкі даўно адчыненыя, але ні то тамат выветрыўся, ні то кансервы пратэрмінаваныя – заглынаць прынаду “піпл” ня хоча.

У Беларусі ўлада, апазіцыя і астатняя (найбольшая колькасцю) частка грамадзянаў сёння як тры паралельныя светы, часам яны перасякаюцца, але пераважна існуюць нібы самы па сабе. Зразумела, што ў такой сітуацыі як зараз, улада нізашто не сядзе за стол перамоваў з апазіцыяй. Зразумела, што апазіцыя ніколі не даможацца нічога пазітыўнага на такіх “выбарах”, якія падсоўвае ёй улада. І зразумелы яшчэ адзін вельмі важны момант – як выразна прадэманстравала мінулагодняя кампанія ў “парлямант” – бальшыня выбарцаў ня хоча браць удзелу ў такіх спектаклях. Гэта зыходныя моманты, на якія і мусіць абапірацца апазіцыя. Яна ня можа ніяк наўпрост рыхтаваць новую “плошчу”. На маю думку, яе правільны шлях у тым, каб гуртаваць сілы, выжыць фізічна і псіхалагічна, распрацоўваць законапраекты трансфармацыі дзяржаўнай улады, рыхтаваць людзей на ключавыя пасты і пасады, мацаваць салідарнасць, змагацца за ўсё беларускае, нацыянальнае, нават у малых праявах.

*Уладзімір Хільмановіч*

# “А будзе ў нас вольнасьць, якой не было...”.

## Да 150-ых угодкаў паўстаньня 1863 году

Бягучы год у гістарычным календары адзначаны 150-мі ўгодкамі паўстаньня 1863 году. Год, які мог стаць часам належнага ўшанаваньня тых, хто аддаў жыцьцё за незалежнасьць нашай краіны. Дата якую будзе ігнараваць дзяржаўная ўлада, бо паўстаньне 1863 году ёй чужое з сваёй прыроды і сутнасьці. Тэма паўстаньня 1863 году непапулярная цягам астатніх гадоў. Зь ёй ня зробіш навуковай ступені, не здабудзеш дацэнтаўскай пасады. Ведамы выпадкі, калі студэнтам настойліва рэкамэндавалі ня лезьці ў сваіх дыплёмных працах у “неперспектыўную” тэматыку. Між тым, сярод “белых плямаў” айчыннае гісторыі паўстаньне 1863 году ледзь ня сама неасьветленае. Здаецца, нават пра наша сярэднявечча мы ведаем болей. Паўстаньне 1863 году ў сьведамасьці нават больш-менш зацікаўленых разглядаецца праз міталягічную прызму савецкай па часе і расейскай па сутнасьці гістарыяграфіі. Якія ж стэрэатыпы характэрныя для гэтай канцэпцыі разгляду паўстаньня?

Стэрэатып першы. Сутнасна-характарны. Паўстаньне 1863 году мела характар вылучна змаганьня з расейскім самаўладдзем. Паўстаньне 1863 году мела найперш характар нацыянальна-вызвольнага руху, змаганьня з расейскім імперыялізмам, а не палітычным рэжымам цара Аляксандра II. Змаганьне супраць расейскага царызму ў 1863 годзе не было змаганьнем супраць манархічнага спосабу кіраваньня дзяржавай. У колах інсургентаў, асабліва ў стане “белых”, было дастаткова людзей, якія марылі пра адраджэньне Вялікага Княства Літоўскага ці Рэчы Паспалітай як канстытуцыйнай манархіі. Паўстаньне мела найперш нацыянальна-вызвольны, а пасьля ўжо эканамічна-сацыяльны характар. Згадаем знакамітае выслоўе Кастуся Каліноўскага: “...Народзе, ...тагды толька зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе” (Лісты з пад шыбеніцы). Ключавымі тут ёсьць словы “над табой”. Бо ня “з табой”, ня “на тваёй зямлі”, а менавіта “над табой”, іншымі словамі, калі беларускай зямлёй перастане кіраваць імпэрская дзяржава з Усходу.

Стэрэатып другі. Нацыянальны. Паўстаньне 1863 году мела вылучна польскі нацыянальны характар. Так ужо павялося (ведама, нездарма), што любому вызвольнаму руху на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай расейскай, а пасьля савецкай гістарыяграфіяй, адразу прышчэпліваўся ярлык “польскі мяцеж”. Украінцы, ці Беларусы пры гэтым “не заўважаліся”. Такія “навуковыя” працы пісаліся згодна дзяржаўнай дактрыны Масквы, паводле якой Беларусы і Украінцы мусілі як нацыі “слиться” зь вялікім расейскім народам. Пасьля паўстаньня 1830-31 гг., як заўважае Мітрафан Доўнар-Запольскі ў сваёй “Гісторыі Беларусі”,“урад (расейскі – аўт.) усё ж працягваў бачыць у насельніцтве краю толькі “палякаў”, пагарджаючы беларускім сялянствам і беларускай культурай. Таму ён ... выставіў дэвізам сваёй палітыкі асіміляцыю мясцовага краю нараўне з іншымі мясцовасцямі імперыі”. Трэба заўважыць, што ліцьвінскі (беларускі) элемент мацнеў з кожным паўстаньнем (1794, 1830, 1863 гг.). Ускосным сьведчаньнем таму і польская гістарыяграфія. Навуковых працаў, прысьвечаных паўстаньню 1863 г. у ёй куды меней, чым, прыкладам, манаграфіяў на тэму паўстаньня 1794. Нічога дзіўнага тут няма. Пераважная частка баявых дзеяньняў была на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а таксама на яе этнічных тэрыторыях. Называць палякам аднаго з галоўных ідэолягаў паўстаньня, Кастуся Каліноўскага проста недарэчна. У сваёй “Мужыцкай праўдзе” ён яскрава выступае супраць польскага панскага прыгнёту і палітычнай залежнасьці ад Польшчы. Падаю толькі адно яскравае выслоўе: “такой бесталковай галаве, як Варшава, ня можна даверыць долю Беларусі”. Па некаторых зьвестках (здаецца, іх першым раскапаў у архіве Алесь Чобат), Мураўёў-вешальнік прапанаўваў Каліноўскаму жыцьцё. За гэта ён мусіў назвацца палякам. У адрозьненьне ад Тадэвуша Касьцюшкі (які таксама пачуваўся ліцьвінам і дэкляраваў гэта), у Польшчы слушна ня лічаць Каліноўскага сваім нацыянальным героем. І гэта наўпрост адпрэчвае "польскасьць" Каліноўскага.

Стэрэатып трэці. Канфесійны. ¨сьць сьледствам папярэдняга. У паўстаньні брала ўдзел насельніцтва вылучна каталіцкага вызнаньня. Абсалютна прапагандысцкі штамп, які не адпавядае гістарычнай рэчаіснасьці і фактам. Праваслаўных удзельнікаў паўстаньня, асабліва на Магілёўшчыне, было даволі шмат. Прыкладам, з 56 студэнтаў і навучэнцаў, якіх цягам студзеня-сакавіка 1863 г. выключылі з Горы-Горацкіх землеробчага інстытуту і землямернай вучэльні за ўдзел у паўстаньні (гэтая моладзь ваявала пераважна ў атрадзе Людвіка Зьвяждоўскага), 27 чалавек былі праваслаўнага вызнаньня. Зразумела, што працэнт каталікоў – удзельнікаў паўстаньня – быў больш (хоць, больш-менш прыблізных лічбаў назваць пакуль ня можа ніхто). Але тут патрэбна ўлічваць, прынамсі, два фактары. Па-першае % каталікоў-насельнікаў беларускіх земляў тады быў большым, чым ёсьць сёньня ў Беларусі. Па-другое, з удзельнікаў паўстаньня было шмат людзей, ня толькі рымска-каталіцкага вызнаньня, але і тых, хто паходзіў з грэцка-каталіцкіх сем’яў. Прыкладам, постаць Францішка Багушэвіча, бацька якога быў уніяцкім сьвятаром.

Паўстаньне ня мела антыправаслаўнага характару, як мяркуюць многія “дасьледнікі”. Перш усяго “антыправаслаўе паўстанцаў” атаясамляюць з асобай Кастуся Каліноўскага. Асабліва хваравіта гэты стэрэатып перажываецца сёньняшнімі беларусамі зь Беласточчыны, дзе мякка кажучы, ня вельмі шануецца постаць іх земляка Каліноўскага. На тое ёсьць свае прычыны. Праваслаўе XX-га стагоддзя на Беласточчыне дазволіла тамтэйшым беларусам захаваць нацыянальную тоеснасьць. Але гэта ўжо тэма асобнай гутаркі.

Каліноўскі запраўды быў зацятым апалягетам адраджэньня ўніяцтва. “...Ні адзін ужэ, можа, забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжэ не спомніць на тое, што павярнулі яго на сызму (схізму – аўт.), на праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве без веры...” (Мужыцкая праўда № 6). І далей, там жа, зьвяртаючыся да Бога: “выжані маскаля з нашага краю, дай нам праўдзівую вольнасьць і веру на-

шых дзядоў і прадзедаў, а касьцёлы, што маскаль, нячыста яго сіла, параскідаў альбо перарабіў на стайні і цэркві, зноў заясьнеюць тваёю хвалой...". Каб зразумець Каліноўскага, трэба зазірнуць у кантэкст гістарычнай эпохі. Пасьля кароткай канфесійнай адлігі, якую Беларусь зазнала за часам расейскага імператара Паўла I (1796-1801), і пэўнага лібералізму Аляксандра I, цараваньне Мікалая I (1825-1855) было часам жорсцкага рэлігійнага ціску. У 1839 г. адбылося скасаваньне ўніі, адначасна ў храмах былі забароненыя казані па-беларуску. Ліквідацыя грэцка-каталіцкай канфесіі суправаджалася нішчаньнем яе шматлікіх культурных каштоўнасьцяў, спальваньнем літургічнай і тэалягічнай літаратуры. Расейскія праваслаўныя цэрквы сталі асяродкамі палітычнай прапаганды імперскай палітыкі Масквы.

Кастусь гадаваўся ў гэты час, юнак меў дапытлівы розум, пазьней атрымаў добрую адукацыю. У час вучобы ў Пецярбургу і Маскве Каліноўскі разам з сваім старэйшым братам Віктарам – таленавітым архівістам, меў мажлівасьць вывучаць унікальныя дакумантальныя матар'ялы, якія паказвалі сутнасьць гістарычных дачыненьняў Расеі і Рэчы Паспалітай. Менавіта адсюль зыходзіў сьветагляд правадыра паўстанцаў.

Асобная тэма – гэта расправы паўстанцаў над праваслаўнымі сьвятарамі. Акрамя аднаго-двух прозьвішчаў з такімі выпадкамі, якія апісваюцца шавіністычнымі расейскімі аўтарамі, дакладных зьвестак пра гэта няма. З іншага боку дакладна ведама, што было пакарана сьмерцю 8 ксяндзоў (кожны другі проста за чытаньне паўстанцкага маніфэсту!), гэтыя прозьвішчы ведамыя дакладна. 36 каталіцкіх сьвятароў былі высланы на катаржныя працы, 25 – на пасяленьне ў Сібір з пазбаўленьнем усіх асабістых правоў.

Стэрэатып чацьвёрты. Клясавы. Сама складаным пытаньнем у паўстаньні 1863 году падаюцца стасункі паміж двума лягерамі вызвольнага руху. Схема гэтых дачыненьняў у сёньняшняй беларускай гістарыяграфіі даволі павярхоўная. Між тым, тэма вымагае грунтоўных дасьледзінаў. Яшчэ да пачатку вызвольнага чыну склаліся дзьве плыні –"белыя" і "чырвоныя". Блёк "белых" складалі буйная шляхта і новая буржуазія. Іх стратэгічнай мэтай было аднаўленьне Рэчы Паспалітай у межах 1772 году. Прымітыўна, аднак, лічыць, што лягер "белых" – гэта блёк вылучна прапольскіх настрояў. Тут патрэбна дэталёва вывучаць паставы і дзеі кожнага асобнага чалавека. Гэтая плынь прагнула аднавіць канфедэратыўную дзяржаву палякаў, ліцьвінаў, украінцаў і жмудзінаў, прычым хацела ўжыцьцявіць гэта канстытуцыйным шляхам. "Белыя" мелі моцную надзею на падтрым заходнеэўрапейскіх дзяржаў (гэты наіўны спадзеў у ХХ-ым стагоддзі стане славянскай ілюзійнай традыцыяй). Зважаючы на пэўныя ліберальныя саступкі рэжыму Аляксандра II, які ў 1855 г. зьмяніў цемрашальскі мікалаеўскі, значная частка "белых" хацела шляхам ціску і ініцыятыў прысьпешыць рэформы. Прыкладам у 1862 г. маршалак Гарадзенскай шляхты, граф Віктар Старжынскі (выдатны, але, на жаль, малаведамы сёньня мысьляр) перадаў Аляксандру II праект нацыянальна-культурнай аўтаноміі літоўскіх (беларускіх) і жмудзінскіх (летувіскіх) земляў у складзе Расейскай імперыі. ¨сьць усе падставы меркаваць, што "белыя" абралі тактыку пакрокавага эвалюцыйнага дасягненьня незалежнасьці. Варта пачытаць мэмуары тагачасных лідараў "белых", прыкладам Якуба Гейштара.

Плынь "чырвоных" была досыць стракатай у сацыяльна-палітычным "пляне". Сюды ўходзілі дробная і сярэдняя шляхта, студэнты, інтэлігенцыя, незаможныя гараджане, сяляне. Бальшыня зь іх была апантаная ідэямі Французскай буржуазнай рэвалюцыі і прагнула радыкальных дзеяў. Апроч Каліноўскага, дзейснымі запраўднымі лідарамі гэтай плыні былі Уладзіслаў Малахоўскі і Цітус Далеўскі. Вызвольнае рэвалюцыйнае паўстаньне яны бачылі як адзіны шлях да незалежнасьці. Можна пагадзіцца зь ведамым дасьледнікам Вячаславам Шалькевічам: "Паўстаньне К. Каліноўскі разглядаў не як самамэту, а толькі як непазьбежны сродак дасягненьня высакароднай мэты - свабоды і незалежнасьці сваёй радзімы, паколькі ў самадзяржаўнай Расеі адсутнічалі якія-небудзь легальныя шляхі змаганьня за ўладу, а значыць, і магчымасьці рэалізацыі справядлівай і гуманнай сацыяльна-палітычнай праграмы" (В. Ф. Шалькевіч. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі).

З працаў савецкіх гісторыкаў вынікае, што Каліноўскі люта ненавідзеў шляхту. Гэта зноў жа павярхоўны пагляд. Па-першае, Каліноўскі сам паходзіў з шляхецкай сям'і і такой прыроднай нянавісьці не магло быць у яго "крыві". Па-другое, ёсьць яскравыя сьведчаньні сучасьнікаў. Як піша Апалёнія Серакоўская (жонка Зыгмунта Серакоўскага, сястра братоў Далеўскіх): "Ведалі мы Каліноўскага шмат гадоў, быў ён сябрам люду - можа, нават халопаманам, але ніколі ня быў ворагам якой-небудзь часткі свайго народу" (Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы). Падаецца, што Каліноўскі рэзка выслаўляўся (а такіх выказваньняў багата) толькі пра частку ліцьвінскай шляхты, а менавіта тую, якая празьмерна спольшчылася і не жадала вызнаваць ідэю сацыяльна-нацыянальна-канфесійнай вольнасьці сялян. Каліноўскі быў апантаны ідэяй вызваленьня сялянства, ён шчыра верыў у жыватворныя сілы народу. Тут варта пагадзіцца з польскім гісторыкам Баляславам Ліманоўскім: "Быў ён шчырым народнікам. Вызнаваў тое перакананьне, што толькі сялянскае паўстаньне верне свабоду літоўскім народам. Народ для яго ня быў адным толькі сродкам, але найперш быў мэтаю. Вызваленьне сялян, ператварэньне іх у грамадзян - вось галоўная мэта" (там жа). Па-сутнасьці, Каліноўскі ўжо тады сфармаваў ідэю грамадзянскай супольнасьці, так папулярную ў панятках сучаснай дэмакратыі.

Праўдзівай беларускай гістарыяграфіі не патрэбная ідэялізацыя "чырвоных" ці "белых". Ня варта перабольшваць супярэчнасьці паміж "белымі" і "чырвонымі". Трэба іх дэталёва аналізаваць. Называць "белых" здраднікамі, а "чырвоных" - рэвалюцыянэрамі-тэрарыстамі – прымітыўны палітыканскі пагляд. Бясспрэчна толькі тое, што абодва лягеры былі патрыятычнымі, мелі пэўную розьніцу ў сьветаглядзе, але праглі такой вольнасьці, як пісаў Каліноўскі, "якой не было нашым дзедам да бацькам". Патрэба сёньняшняга асэнсаваньня паўстаньня 1863 году – глянуць на яго беларускімі вачамі, але праз сьветагляд эўрапейца другой паловы XIX ст.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Пад сваім небам...

***У Гародні прайшла яшчэ адна прэзентацыя кнігі. Увогуле, для горада над Нёманам гэта з’ява не рэдкая. Прэзентацыі тут адбываюцца з стабільнай перыядычнасцю. Толькі вось беларускамоўныя кнігі ў нашай краіне з большага прэзентуюць без удзелу дзяржавы. З аднога боку гэта крыўдна, недарэчна і незразумела. Але гэта чарговы раз даказвае, што ў Беларусі, неўзіраючы ні на ціск, ні на складанасці ў працы, грамадзянская супольнасьць існуе. Яна ёсць і дзеіць, часамі вельмі актыўна і эфектыўна. І даказвае сваёй дзейнасцю, што яна здольная не толькі захоўваць ў складаных умовах беларускасць ва ўсіх яе праявах, але можа яе памнажаць, прапагандаваць, славіць і ўзвялічваць.***

На гэты раз у старадаўняй Гародні гаварылі пра кнігу “Справа Бяляцкага”. Аўтар кнігі Валер Каліноўскі асабіста расказаў прысутным пра гісторыю напісання. Герой жа гэтага твора, кіраўнік пазбаўленага ўладамі рэгістрацыі Праваабарончага Цэнтру “Вясна” ужо больш году знаходзіцца за кратамі. За гэты час міжнародная супольнасць неаднаразова адзначыла ўклад Алеся Бяляцкага ў справу абароны праў чалавека. Беларускі праваабаронца ёсць ганаровым сябрам некалькі еўрапейскіх257 гарадоў, лаўрэатам многіх прэстыжных прэмій. У мінулым годзе ўвайшоў у першую тройку прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію. На працягу усяго прайшоўшага тэрміну зняволення і шматлікія беларусы неаднаразова выказвалі свае адносіны да гэтай асобы. І вось зараз выйшла кніга, якая не толькі асвятляе ходу крымінальнай справы над Алесям Бяляцкім, не толькі стараецца разабрацца ў прычынах, не толькі паказвае свайго героя з розных бакоў, але і наводзіць на глыбокія розвагі пра існую сітуацыю і людзей.

Аўтар кнігі таксама расказаў пра сваю перапіску з зняволеным, і зачытаў сярод іншых адну фразу, якая вельмі скалынула і навяла на роздум. Алесь Бяляцкі ў адным сваім лісце піша з-за кратаў: “Дзякаваць Богу, што ў Беларусі няма Сібіры, Калымы, а ў бабруйскай калоніі тое ж самае надвор’е, што ўва ўсёй Беларусі, тое ж неба. І лісты прыходзяць хутка: дзень-два і ўжо чытаеш”.




Думаю, шмат хто з зняволеных думае гэтак жа. І не толькі апазіцыянеры. Бо і зняволены бізнесовец, які не ўмешваўся ў палітыку і ганарыўся тым, што не губляе часу бессэнсоўна, і зняволены чыноўнік, якому зусім нядаўна было напляваць чыноўнікам якой краіны быць, і зняволены рабочы або калгаснік, якія казалі, што ім усядно які сцяг вісіць на Доме Ўраду, абы заробкі плацілі своечасова, і зняволены міліцыянт, які разганяў акцыі апазіцыі, і кожны іншы зняволены, на сабе адчулі, што ім нават там за кратамі крыху лепш, чым магло б быць, каб такія людзі як Алесь Бяляцкі не адстаялі Незалежнасьці. І зарз яны хоць не ў сама лепшым месце, але ж не ў Сібіры і не на Калыме. А ў сябе на радзіме. Дзе сваё неба… І лісты прыходзяць за дзень-другі.

Ды і тыя, хто на волі, таксама маглі б задумацца пра тое, што яны многім абавязаны такім людзям, як Алесь Бяляцкі. Дзякуючы Незалежнасці, за якую той змагаўся, беларускім міліцыянтам не прыйшлося гінуць, прыкладам, у Чачні. Не гінулі там і дзеці рабочых ды калгаснікаў, якіх цяпер узялі служыць не ў савецкае войска, і не ў расейскае, а ў сваё, Беларускае. Дзякуючы здабытай такімі людзямі як Бяляцкі Незалежнасці, тыя дзяржаўныя чыноўнікі, якія маглі толькі марыць дарасці да крамлёўскіх лакеяў, сталі самастойнымі дзяржаўнымі дзеячамі, пасламі, дыпламатамі, міністрамі… У тым ліку і міністрамі сілавых структур.

Хто б яны былі без гэтай Незалежнасці? Ці думалі яны пра гэта, калі затрымлівалі, арыштоўвалі, раскручвалі справу супраць Алеся Бяляцкага? Ці ўспомнілі яны пра гэта, калі накіроўвалі матэрыялы ў суд, зачытвалі прысуд, этапавалі патрыёта і праваабаронцу ў калонію? Ці думаюць яны пра гэта зараз, калі ідуць на працу ў беларускую ўстанову, атрымліваюць заробак у беларускіх грашах і карыстаюцца ўсімі мажлівасцямі, якія штодзённа, і нават штохвілінна дае чалавеку яго ўласная незалежная дзяржава.

Ці думаюць яны пра гэта, калі глядзяць на неба, якое над іх галовамі такое ж самае, як і над бабруйскай калоніяй…

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на люты 2013 году

***1 лютага***

*150 гадоў таму (1863) – Літоўскі правінцыйны камітэт (утвораны летам 1862) абвесьціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі.*

***2 лютага***

*665 гадоў таму (1348) – У бітве з крыжакамі загінуў Нарымонт (нар. каля 1294), князь ВКЛ, другі сын Гедыміна. Перамога войск ВКЛ над крыжакамі на рацэ Стрэва (прыток Нёмана).*




*175 гадоў таму (1838) – У в. Мастаўляны (Беласточчына) нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, нацыянальна-вызвольны дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году. Вучыўся ў Сьвіслачы, жыў у фальварку Якушоўка.*

*45 гадоў таму (1968) – Адкрыўся літаратурна-этнаграфічны музэй у Гудзевічах (Мастоўскі р-н). Стваральнік – Алесь Белакоз.*

***8 лютага***

*120 гадоў таму (1893) – У Санкт-Пецярбургу нарадзіўся Антон Неманцэвіч, беларускі ўніяцкі сьвятар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашысцкіх турмаў. Працаваў у Слоніме, Альбэртыне, Сынковічах.*

***12 лютага***

*215 гадоў таму (1798) – У Пецярбургу памёр Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі ў 1764-95 гг. Пахаваны ў касьцёле Сьв. Кацярыны на Неўскім праспэкце. У крас. 1938 парэшткі перапахаваны ў касьцёле ў Воўчыне (Камянецкі р-н). Меў рэзыдэнцыі ў Гародні.*

***13 лютага***

*110 гадоў таму (1903) – У в. Вострава (Зельвенскі р-н) нарадзіўся Серафім Татарын, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст Грамады і ТБШ.*

*45 гадоў таму (1968) – Нарадзіўся Антось Савук, беларускі краязнавец, публіцыст. Жыў і працаваў у Лідзе.*

***15 лютага***

*150 гадоў таму (1863) – У баі каля в. Рэчыца (Пружанскі пав.) загінуў Станіслаў Сангін (нар. каля 1818), адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Працаваў на Гарадзеншчыне.*

***17 лютага***

*125 гадоў таму (1888) – У мяст. Гальшаны (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Янка Вярсоцкі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч.*

*70 гадоў таму (1943) – У Росіцы (Віцебшчына) фашысты спалілі каля 30 чалавек. Сярод іншых загінуў Антон Ляшчэвіч, нараджэнец в. Абрамаўшчына (Смургонскі р-н), беларускі сьвятар-марыянін, які застаўся зь вернікамі і сам пайшоў на сьмерць. Пазьней блаславёны.*

***21 лютага***

**Міжнародны дзень роднай мовы.**

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя і іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: студзень 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка абавязковая

